# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 2(660)
Люты 2021 г.


# “Ці ёсьць Бог”



***Зянон ПАЗЬНЯК***

У сацыяльнай мэнтальнасьці беларуса першасным чыньнікам камунікацыі зьяўляецца пазнаньне канкрэтнага чалавека. Беларус ня стане адразу дэманстраваць сябе, пакуль не пазнае, з кім мае справу. Гэтая якасьць амаль стоадсоткава праяўлялася ў сялянстве, гэта значыць у першаступенным этнічным асяродзьдзі і найбольш традыцыйнай частцы соцыюма.

Такую асаблівасьць душы беларуса адзначыў, між іншым, наш амэрыканскі прыхільнік Джон Кунстадтэр, які мае сантымэнты да беларусаў і кожны год прыяжджае ў Беларусь, каб падарожнічаць па вёсках, па Палесьсі, па Браслаўшчыне ды Меншчыне, пагаварыць па-беларуску ды паслухаць і пафатаграфаваць людзей. Ён знайшоў у Беларусі тое, чаго няма ўжо ў Амэрыцы і што ёсьць скарбам душы (удакладняць ня буду).

Тое, пра што я вышэй напісаў, ня ёсьць тэма маёй гаворкі, а хутчэй асацыяцыя да тэмы, якая больш жорсткая і празаічная.

У сацыяльных дачыненьнях людзей узьнікаюць тэставыя паняцьці, якія выяўляюць сутнасьць асобы, акрэсьліваюць зьяву і вызначаюць узровень дыялёгу, а то і ўвогуле — магчымасьць гаворкі.

Разважаючы аб духоўным, часам карысна задаць тэставае пытаньне: ці ёсьць Бог? Калі ў субяседніка “Бога няма”, то дыялёгу не атрымаецца. Як правіла, можа ўзьнікнуць спрэчка, альбо пераход на тэму, зразумелую для бязбожнага чалавека.

Клясычным тэстам у цяперашняй палітыцы стала пытаньне: чый Крым? Спрацоўвае бездакорна. Літаральна ўсе прадстаўнікі газпрамаўска-эфэсбоўскай псэўдаапазыцыі ў Беларусі не адказалі на пытаньне “чый Крым” і круціліся, як в’юны на патэльні. Часам было камічна назіраць, як два агенты “канторы” з так званай “каардынацыйнай рады”, будучы ў Кіеве ў праграме Славіка Шусьцера на тэлебачаньні, упарта плавалі перад украінскай аўдыторыяй, каб не адказаць на гэтае пытаньне (і не адказалі!). Фэнамэнальныя балваны, — казаў бы нябожчык Літвіненка, забіты Масквой.

Пасьля неадказу на гэтае пытаньне — пра дэмакратыю больш не кажэце, панове, не гаварыце пра яе (лепш ужо пра надвор’е ці пра тавары).

Тэставым пытаньнем для ўсёй прамаскоўскай квазіапазыцыйнай публікі ёсьць таксама пытаньне пра Беларускі Народны Фронт “Адраджэньне”, пра нацыянальную рэвалюцыю, выкліканую гэтым рухам, і гістарычную перамогу — сьцьвярджэньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, дзяржаўнасьці беларускай мовы і дзяржаўнасьці сымбаляў нацыі — Пагоні і Бела-Чырвона-Белага Сьцяга.

У палітычным сэнсе, улічваючы тыхчасовыя абставіны ў БССР, — тады адбыўся фэнамэнальны палітычны цуд, створаны аднак сьветлымі розумамі, воляй і гарачымі сэрцамі адданых Беларусі і беларускаму народу людзей.

Замоўчваньне і абплёўваньне гэтай вялікай дзейнасьці і гістарычнай перамогі Фронту і ўвогуле — усёй гісторыі беларускага змаганьня супраць расейскага камунізмаму і супраць антынацыянальнага рэжыму Лукашэнкі — ёсьць характэрнай прыкметай газпрамаўска-эфэсбоўскай палітычнай групы, яе так званай “каардынацыйнай рады” і павярхоўнай рыторыкі так званых нэафітаў (“невероятных”), якія расплюшчылі вочы, але так і не прачнуліся.

Нэгатыўныя адносіны газпрамаўскай квазіапазыцыі да Беларускага Народнага Фронту, да ягонай дзейнасьці, ідэалёгіі і да перамогі нацыянальнай рэвалюцыі ў 1988-1991 гадах тэстава сьведчыць толькі пра адно: перад намі непрыяцелі беларускай нацыянальнай Беларусі, непрыймальнікі яе нацыянальнай ідэі і нацыянальнай будучыні. Ім непатрэбная шчасьлівая, адроджаная, культурная нацыя зь беларускім духоўным жыцьцём, зь беларускай мовай і вольнай працай. Яны хацелі б “страну для жизни” (прытым адразу) з камфортам, які ім забясьпечыць Расея ўзамен за здачу беларускай маёмасьці і адмаўленьне ад нацыянальных каштоўнасьцяў; з камфортам, які паабяцаюць Пуцін, Масква і сытая Эўропа, калі яны будуць славіць яе левую эўрадэмакратыю з усімі збачэнствамі.

Гэтыя сацыяльныя ненавісьнікі Лукашэнкі існуюць цалкам у палітычнай парадыгме Масквы, якая хацела б зьмяніць Лукашэнку на такога ж залежнага васала, але больш культурнага і цывілізаванага. Пры гэтым газпрамаўскія спаборнікі за ўладу нічога ня ведаюць пра беларускую нацыю, пра Беларусь і ня хочуць ведаць. Яны тыповыя непрадрашэнцы, якія думаюць перацягнуць на сябе Беларускі народ, нічога ня кажучы пра ягоную нацыянальную будучыню. Маўляў, звалім Лукашэнку, а там будзе лепей.

Аднак з Масквой, ня будзе “лепей”. Ужо бальшыня беларусаў тое ведае. Але сацыял-нэафіты ўсё на гэтую імпэрскую лухту купляюцца.

“Ябацькі” і “неверагодныя” падзяліліся па палітычных вэктарах. Арыентацыя супроцьлеглая, тыпажы розныя але прырода ў іх адна — наднацыянальная. Яны будуць разьдзіраць Беларусь з-за розных уяўленьняў аб “стране для жизни” — але злучацца ў антынацыянальнае

***заканчэньне на бачыне 3***

# Прээнтацыя альманаха “Беларус” у Нью-Ёрку

У суботу, 9-га студзеня, у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася прээнтацыя выпуску літаратурнага альманаха беларусаў замежжа “Беларус” за 2020 год. Дзеля сытуацыі з каронавірусам усе ўдзельнікі імпрэзы былі ў масках і даглядалі сацыяльнае дыстанцыяваньне, як патрабуюць, можа не заўсёды слушна, улады гораду і штату Нью-Ёрк.

Вядучы, сп. Віталь Зайка, у сваім уступным слове распавёў пра важнасьць адзінага ў замежжы друкаванага выданьня, якое дае мажлівасьць зьмяшчаць свае творы ўсім, хто піша пабеларуску і жыве па-за межамі Беларусі. “Гэты, чатырнаццаты ад часу заснаваньня, выпуск альманаха – найбольшы па памеры і мае найбольшую колькасьць аўтараў”.

Вядучы затым даў слова рэдактару выданьня сп. Марату Клакоцкаму. Ён распавёў пра гісторыю заснаваньня альманаха, пра тое, як выбралі назву. “Калі я быў рэдактарам газэты “Беларус”, у рэдакцыю часам дасылаліся тэксты, пераважна мастацкія, што не пасавалі для друку ў газэце дзеля свайго памеру і зьместу, бо газэта найперш засяроджвалася на навінах і падзеях. Тады паўстала думка выдываць пэрыядычнае выданьне, альманах, дзе можна было б тыя тэксты друкаваць. Прынцып – друкаваць з большага ўсе тэксты, што праходзяць мінімальны крытэр для друкаваньня, і што былі б напісаныя пабеларуску аўтарамі, што жывуць па-за межамі Беларусі, бо ў самой Беларусі ўсё ж ёсьць мажлівасьць публікавацца”. Затым прамоўца распавёў пра праблемы, якія былі пры выданьні, і адкуль браліся сродкі на друк і рассылку. Была закранутая таксама справа распаўсюду. “Беларус” цяпер дасылаецца ў асноўныя бібліятэкі: Кангрэсу, буйнейшых унівэрсытэтаў ЗША, дзе ёсьць славяназнаўчыя праграмы, ва ўсе унівэрсытэцкія бібліятэкі ў Беларусі, а таксама ў Нацыянальную, Прэзыдэнцкую бібліятэкі. Сродкаў для шырэйшага распаўсюджаньня алманаха бракуе, гэта застаецца праблемай. Сп. Клакоцкі адказаў на пытаньні ўдзельнікаў прээнтацыі.



Затым былі выступы аўтараў сёлетняга нумару, якія змаглі наведаць імпрэзу. Першым выступіў сп. Зянон Пазьняк, ён адзначыў, што цяпер выхад альманаху – вельмі неабходная рэч. “Альманах зрабіўся адным з важных выданьняў па беларускай літаратуры. Ён стаў такім вогнівам, вакол якога гуртуецца беларуская літаратура за мяжой. І падыход, што прапанаваў сп. Марат Клакоцкі, гэта слушны падыход: што амаль любы чалавек, які захоча пісаць па-беларуску – будзе надрукаваны. Здавалася б, як гэта так – людзі ж могуць напісаць абы што. Вось прагледзеў апошні выпуск – канешне, ёсьць і слабыя творы. Але, тым ня менш, падыход карысны – бо сярод творчасьці ёсьць крупінкі проста залатыя, і галоўнае – што многія пішуць свае ўспаміны, тое што перажылі. Пішуць сапраўднае жыцьцё.”

Далей сп. З. Пазьняк спыніўся на мэмуарных творах мастака Алега Аблажэя, Уладзімера Бортніка з Вашынгтону і Галіны Пазьняк зь Нью-Ёрку. Апошняя апублікавала гутаркі-інтэрвію з Аляксандрам Хомчанкам, актыўным дзеячам Беларускай царквы. “Вельмі добра, што альманах дае магчымасьць для публікаваньня дакумэнтальных твораў, мэмуараў. Гэта можа аказацца важнейшым за прыдумкі, фантазыяваньне болей спрактыкаваных ці прафэсійных аўтараў. Людзі апісваюць тое, што бачылі, што перажылі, часам без адмысловага стылю – але яны апісваюць жывое жыцьцё, тое што рэальна адбылося, закранула, аказала ўплыў”. Яшчэ важна, падкрэсліў сп. Пазьняк, што ў альманаху можна надрукаваць тое, чаго не дазволіць да друку цэнзура ў Беларусі. “І гэтую калясальную працу робіць фактычна толькі адзін чалавек – сп. Марат Клакоцкі. Хачу падтрымаць яго і засьведчыць, што ягоная праца – вялікая праца. Тое, што будзе выдадзенае ў “Беларусе”, на паперы – застанецца, будзе захаванае ў бібліятэках, сховішчах, тады як апублікаванае на сеціўных сайтах – не вытрымоўвае выпрабаваньня часам, забываецца, губляецца, зьнікае. І гэта яшчэ раз пацьвярджае важнасьць наладжанай альманахам працы”.

Затым выступіла сп-ня Галіна Пазьняк, яна падзялілася сваімі думкамі пра альманах і патрэбу публікаваньня твораў, што закранаюць праблему нацыянальнай сьведамасьці. “Я заўсёды цікавілася нацыянальнай сьведамасьцю, як людзі прыходзілі да беларускасьці. Гутарыла пра гэта шмат з кім, сустракалася ў тым ліку зь беларускімі дзеячамі замежжа, як Міхась Навумовіч з Францыі і Лёля Міхалюк з Англіі. Памятаю, як сп-ня Лёля Міхалюк апавядала пра тое, што на чужыне, у ДП-лягерох, беларусы вучыліся ў беларускіх школах, выхоўвалі па-беларуску дзяцей, друкавалі на сваёй мове кнігі, часапісы, рабілі пераклады з іншых моваў на беларускую. І вось я пісала аповеды, часам у форме інтэрвію, пра ўсе гэтыя рэчы, як усталёўвалася нацыянальная сьведамасьць. У адных гэта адбывалася ў сям’і натуральным чынам, арганічна. Але ў большасьці людзей гэта быў асэнсаваны выбар, гэта быў працэс, шлях. Чалавек задумваўся над пытаньнем – чаму Бог паслаў мяне сюды, у гэты сьвет. Што значыць тое, што я беларус. Усе нацыі кругом ганарацца сваёй культурай, гісторыяй, дасягненьнямі. Ніхто не выракаецца свайго. І вось калі сустрэлася са сп. Аляксандрам Хомчанкам, то ўразілі некаторыя ягоныя ўспаміны жыцьця, пра вёску, дзяцінства. Гэта знайшло водгук у мяне, пераклікалася з маімі ўласнымі ўспамінамі. Таксама важнай была інфармацыя пра Чарнобыль, пра жыцьцё ў замежжы. І вось лёс, жыцьцёвы шлях дадзенай

*заканчэньне на бачыне 3*

# "Ці ёсьць Бог"

**заканчэньне з бачыны 1**

і лукашысцкае "адно", калі зьявіцца на палітычнай сцэне нацыянальная беларуская арганізаваная і вызвольная сіла.

Народная беларуская салідарнасьць цяпер пратэстуе супраць гвалту і маніфэстуе пад беларускім нацыянальным сьцягам, ахвяруецца, церпіць і не здаецца.

Праўда, за пяць месяцаў актыўнага мірнага пратэсту яшчэ не стварылася народная палітычная арганізацыя. Нават дружыны дзеля аховы дэманстрантаў не стварылася. Гэта трывожны момант, бо газпрамаўска-прамаскоўская барацьба за ўплывы на беларускі народ адбываецца амаль што ў аднабаковым парадку, амаль не спатыкаючы арганізаванай нацыянальнай альтэрнатывы.

Беларусь перажывае хвалюючы гістарычны момант грамадзкага абуджэньня людзей, працягвае мірны супраціў нялюдзкаму рэжыму, пратэстуе супраць антынароднай акупанцкай палітыкі, ядначецца пад беларускім нацыянальным сьцягам, які ўсяляе надзею і аптымізм у душы беларусаў. Але гэта толькі пачатак, толькі дэманстрацыя пазыцыі і сьведчаньне нацыянальнага яднаньня. Гэта першы этап. Далей мусіць быць арганізацыя беларускага нацыянальнага супраціву, палітычнага руху, палітычная барацьба і змаганьне. Нацыянальна-вызвольны рух мусіў бы стаць масавым.

Галоўнае – не прапусьціць час "Х", які настане, калі трэба ўсім выступіць. Тады бандыты, якія захапілі ўладу, якія рыхтуюць канцлягеры для народа і вынішчэньне беларускай нацыі, павінны быць адразу схопленыя і пакараныя па суду. Час мірных пратэстаў закончыцца. Кветкі падонкам узамен за катаваньні дарыць ня будуць.

Міліцыя не з народам! Яны яшчэ ня ведаюць беларуса ў гневе, калі скончыцца ягонае цярпеньне. Бойцеся!

Тады рэальна абрынецца антынародны рэжым. Тады яго не ўратуе нішто: ні Масква, ні АМОН, ні маскоўскія грошы, ні нават маскоўскія танкі.

*8 студзень 2021 г.*

# Прэзэнтацыя альманаха

**заканчэньне з бачыны 2**

канкрэтнай асобы – ён адлюстроўвае жыцьцё і лёс цэлага народу". Сп-ня Пазьняк адзначыла, што гэта нагадвае нам пра неабходнасьць вяртаць у штодзённы ўжытак беларускую мову, бо яна нам дадзеная Богам, і гэта як Сьвяты Грааль, што мусіць запаўняцца беларускім духам. "І калі мы ня будзем карыстацца мовай, дадзенай нам, дык як можам тады спадзявацца, што нешта яшчэ будзе нам дадзенае?"

Наступная аўтарка альманаху сп-ня Ірына Хадарэнка, распавяла пра сваё ўспрыняцьце беларускасьці, пра час, праведзены ў вёсцы з бабуляй, якая распавядала пра сваё жыцьцё, пра часы Другой сусьветнай вайны на Гомельшчыне пад Жлобінам. Уразіў яе аповед пра тое, як рыхтавалася зьнішчэньне гэбраяў, як паліцаі хадзілі ў іх па хатах і казалі гэбраям зьбірацца, што яны мусяць прыйсьці туды а туды – і людзі ішлі, ведаючы, што яны ідуць на пагібель, на верную сьмерць. Не ўцякалі, не аказвалі супраціву. Але пазьней аказалася, што гэта была толькі адна мадэль паводзінаў. Былі таксама іншыя, супрацьлеглыя мадэлі, як лёс вядомага польскага пісьменьніка-сатырыка Станіслава Ежы Леца. Ён змагаўся за сваё жыцьцё, не пайшоў пакорліва на сьмерць. Ён забіў рыдлёўкай немца, які мусіў забіць яго, калі выкапае магілу. І так выратаў сваё жыцьцё і зрабіў адным ворагам меней.

Далей сп-ня Хадарэнка сказала: "І вось тут у мяне ўзьнікае такая аналёгія з тым, што адбываецца цяпер у Беларусі. Там цяпер шмат хто гаворыць, што супраціў дыктатуры мусіць быць толькі мірны, што беларусы ня могуць асацыявацца з гвалтам, што "беларусы – мірныя людзі". А беларусы – ня мірныя людзі! Мы нашчадкі ваяроў, унукі партызанаў. Мы – змагары. І можа час ужо брацца за рыдлёўкі, бо рэжым і ягоныя паслугачы гатовыя забіваць нас, і ўжо пачалі рабіць гэта. Бо ў змаганьні за вольную Беларусь наўрад ці зможам мець посьпех, калі будзем спадзявацца толькі на мірныя спосабы. І трэба мяняць імідж абыякавасьці, пакорлівасьці, бо тое самае адбываецца і з культурай, і з мовай – калі не змагацца, ня быць гатовымі даць бой, дык ня можам спадзявацца на захаваньне беларускасьці. Бо хочацца, каб мы пабачылі ня толькі дэмакратычную краіну, але і беларускую Беларусь. Варта пашыраць веды пра сваю краіну, браць удзел у культурніцкіх мерапрыемствах, хадзіць на канцэрты беларускі гуртоў, як "Стары Ольса", што прыяжджаў сюды. Ня трэба быць задужа сьціплымі, вунь амэрыканцы ў захапленьні ад тога ж "Ольсы", жывая цікавасьць да беларускай гісторыі, да традыцыяў, мовы, нават страваў – нам ёсьць што цаніць і ёсьць чым ганарыцца".

Прамоўца таксама ўступіла ў дыскусію адносна шляхоў дасягненьня перамогі над рэжымам Лукашэнкі, распавяла пра сваё наведваньне Беларусі падчас выбараў і пратэстаў летась. Сп-ня І. Хадарэнка заклікала набываць каляндар "Пагоні", які быў створаны зь яе ўдзелам.

Валянціна Якімовіч-Такарская, сталая аўтарка альманаха, выступіла з гутаркай пра свой досьвед шляху да беларушчыны, і пра свае ўспаміны, якія яна зьмясьціла ў гэтым выпуску "Беларуса". Напачатку яна праспавяла пра часы Нацыянальнага Адраджэньня 1980-х-1990-х гадоў, часы "Талакі", часы абуджэньня беларускага грамадзтва да сваёй уласнай гісторыі й традыцыяў.

Потым выступоўца спынілася на сваім дзяцінстве, на сваяках і мясьцінах, дзе прайшло дзяцінства. Тады яна накрэсьліла свой жыцьцёвы шлях і абставіны таго, як зацікавілася нацыянальнай культурай, фальклёрам, нацыянальнымі беларускімі строямі. Удалося ўладкавацца ў Музэй драўлянага дойлідства і з дапамогай тамтэйшых людзей зацікаўленьні атрымалі сыстэматычны кірунак. Асабліва цікавіла матэрыяльная культура Ўсходняга Палесься, езьдзіла па вёсках, малявала строі. Хацела выдаць кнігу-альбом па мастацтве Ўсходняга Палесься, і гэты альбом яна мае тут, у Нью-Ёрку, і яго можна будзе пры жаданьні выдаць або хоць часткова скарыстаць, скажам, для выданьня календара або для падобных праектаў.

Напрыканцы выступіў вядучы прэзэнтацыі сп. Віталь Зайка, таксама адзін з аўтараў альманаху. Ён яшчэ раз падкрэсьліў важнасьць "Беларуса" як адзінай пляцоўкі для беларускіх аўтараў замежжа. Ён адзначыў, што аўтарам патрэбная зваротная сувязь, крытычныя ацэнкі сваёй творчасьці, парады і заўвагі, што маглі б дапамагчы ў далейшым разьвіцьці творчых здольнасьцяў, стылю, мэтадаў напісаньня твораў. Нажаль, на гэта цяжка спадзявацца, калі інфармацыя пра выданьне абмяжоўваецца толькі замежжам. І, безумоўна, альманах, які ёсьць часткаю беларусккай культуры, мусяць больш ведаць і на Бацькаўшчыне, неабходна як найболей пашыраць зьвесткі пра альманах і пра падзеі, што зь ім зьвязаныя.

Сп. Аляксандар Хомчанка выступіў з інфармацыяй пра плян усталяваньня бюстаў Тадэвуша Касьцюшкі й Кастуся Каліноўскага каля будынка Сабора Сьв. Кірылы Тураўскага і пра падрыхтоўку краўдфандынгу для зброру сродкаў на праект.

Пасьля галоўнай часткі прэзэнтацыі ўдзельнікі сустрэчы мелі мажлівасьць працягнуць гутаркі й абмеркаваньні, бліжэй пазнаёміцца з аўтарамі, і з рэдактарам штогадовіка.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Н - як Ня быць скотам

Многія народы хацелі быць падобныя да іншых. Руская арыстакратыя, і ня толькі ў свой час, хацела быць як французкая. Вывучалі французкую мову, чыталі французкія кніжкі, захапляліся францускім мастацтвам. Бывае такая любоў становіцца ўзаемнай. Французы таксама пад вялікім уражаннем ад Расеі, праўда, пэўна, без такой (галла)маніі, як у першых. Любіць на адлегласьці прыемна, калі блізка – небясьпечна. Шмат якія народы хацелі некалі быць як немцы. У некаторых, напрыклад, славенцаў, нават атрымалася. Цяпер тыя немцы, якія ўжо самі не свае, могуць вучыцца ў славенцаў як вярнуць сваю прыроджаную цягу да парадку. Цяпер адурнела паўсьвету, і людзі хочуць быць як англасаксы.

А беларусы? Кім хацелі быць беларусы? Швейцарцамі з чатырма мовамі і з золатам пад запечкам. І каб яшчэ паўсюль горы расьлі.

Ня думаю. Сапраўдныя беларусы не хацелі быць нікім іншым. Наша ідэнтыфікацыя была заўсёды адмоўнай, мы ведалі кім быць ня хочам – ня быць скотам. Ня быць ардой і ня быць пад панам. Не паддацца ні бальшавіцкай, ні нацысцкай набрыдзі, ні мясцовым круцялям. Абы не было вайны. Толькі ня так, як ва Ўкраіне. І гэтак далей. Беларус чалавек ганаровы, абы з кім чарку ня возьмець...

**Віталь ВОРАНАЎ**





### Замаўляйце новы нумар літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа

## “БЕЛАРУС”

Кошт апошняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара **Marat Klakotski**.

Замовіць новы нумар, як і ўсе папярэднія, можна таксама наведаўшы старонку ***e-krama.com***.



## Віншуем!

З нагоды дня нараджэньня маем гонар павіншаваць шаноўнага **сп. Алега Паўліва** з горада Прага (Чэхія).

Сёлета сп. Паўлів адзначае адразу тры даты: 30-годзьдзе з дня нараджэньня, 10-годзьдзе навуковай дзейнасьці і 30-годзьдзе незалежнасьці Украіны.

З 2011 году ён прысьвяціў сваю дзейнасьць ня толькі Украіне, але і Беларусі і украінска-беларускім адносінам, пра што сьведчаць ягоныя шматлікія публікацыі ў выданьнях беларускай дыяспары. Акрамя гэтага, сп. Паўліў надрукаваў ва ўкраінскіх выданьнях шмат перакладаў зь беларускай мовы на ўкраінскую.

Калектыў Таварыства “Опір Західної України” віншуе сп. Алега Паўліва і дзякуе яму за ахвярную і прафэсійную працу на карысьць украінскаму і беларускаму народам.

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| Т. Баньнікава | 60 |
| В. Едзіновіч | 60 |
| М. Іваніцкі | 60 |
| М. Паўловіч | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах арганізацыі.**

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

***Шаноўныя сябры!***

*Калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”.*

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

| | |
|---|---|
| В. Едзіновіч | 30 |
| М. Іваніцкі | 30 |
| В. Кузьменка | 30 |
| Т. Надзейка | 30 |
| М. Паўловіч | 30 |
| С. Скрабко | 30 |
| М. Троцкая | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***